

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №8 (113)
ТРАВЕНЬ 2020 ГОДА

МЕМАРЫЯЛ

## ПАМЯЦЬ АБ АХВЯРАХ СТАЛІНІЗМУ

**30 красавіка сябры грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты» наведалі народны мэмарыял у лесе за вёскай Хайсы Віцебскага раёну, каб памянуць расстраляных і пахаваных там у 30-я гады беларускіх грамадзянаў. Праз эпідэмію каронавірусу візыт быў не шматлюдным.**

На агульным лютаўскім сходзе ў Віцебску сябры ініцыятывы вызначылі дзень 30 красавіка як Дзень памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, забітых у лясным масіве ля Хайсоў.

Актывісты высьветлілі, што 30 красавіка 1938 году ў лесе пад Хайсамі была расстраляная 28-гадовая настаўніца віцебскай латыскай школы Вольга Данцыт. Яе імя ўдалося вярнуць зь нябыту дзякуючы знойдзенаму ў адной з пахавальных ямінаў грабеньчыку з надпісам. Таму памінальная дата была вызначана невыпадкова. Было вырашана штогод у гэты дзень наведваць нородны мэмарыял, створаны актывістамі ў ваколіцах аднайменнай вёскі, і ўшаноўваць памяць ахвяраў сталінізму.

Старшыня грамадскай ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў прыгадаў ля мемарыяльнай магілы Вольгі Данцыт, што пасьля таго, як і прозьвішча ўладальніцы грабеньчыка было высьветленае, улады пачалі аспрэчваць дакладнасьць агучанай актывістамі інфармацыі. Маўляў, там мог быць пахаваны і нехта Данцыг.

«Мы пачалі шукаць і высьветлілі, што чалавек з такім прозьвішчам сярод рэпрэсаваных ёсьць. Праўда, ён – мужчына зь Берасьця. Але ж ці мог ён мець жаночы грабеньчык у сваіх валасах? Таму мы дакладна ведаем, што тут была забітая настаўніца 30-й віцебскай латыскай школы», – перакананы Ян Дзяржаўцаў.

Грамадзкія актывісты па чарзе агучылі прозьвішчы і кароткія біяграфічныя зьвесткі ўсіх 65 грамадзянаў, рэпрэсаваных у адзін дзень з Вольгай Данцыт.

*«Сёньня, не зважаючы на абставіны, захоўваючы ўсе меры перасьцярогі, мы прыехалі сюды. І няхай забітыя – ня нашыя сваякі, але яны – беларускія грамадзяне. Мы ўшаноўваем памяць ахвяраў тэрору, каб людзі не забыліся на рэпрэсіі і каб гэтыя злачынствы не паўтарыліся. Гэтага нельга дапусьціць, бо беспакаранасьць і бяспамяцтва – добрая глеба для новых злачынстваў»,* – адзначыў Ян Дзяржаўцаў.

**С. Горкі
"Віцебская вясна"**

*Чытайце сайт
Віцебскага раёна:*
**http://vicebskreg.by**

ПАМЯЦЬ

## ПАТРАБУЕМ ПРЫЗНАНЬНЯ НАРОДНЫХ МЭМАРЫЯЛАЎ!

**Сябры грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты» працягваюць змагацца за стварэньне і прызнаньне ўжо існых мэмарыялаў на месцах пахаваньняў ахвяраў палітычных рэпрэсій у Віцебскім раёне.**

Гэтак, 20 красавіка сябра ініцыятывы Канстанцін Смолікаў даслаў скаргу на імя дырэктара Інстытуту гісторыі НАН Вячаслава Даніловіча і загадчыка аддзелу найноўшай гісторыі Беларусі Сяргея Трацяка. Нядаўна атрымаў адказ.

У лісьце актывіст скардзіцца на невыкананьне супрацоўнікамі інстытуту сваіх службовых і прафэсійных абавязкаў.

Напісаць скаргу Канстанціна Смолікава падштурхнула ігнараваньне, скажэньне і фальсыфікацыя мясцовымі, раённымі і абласнымі ўладамі фактаў, зьвязаных са знойдзенымі ў ваколіцах Віцебску парэштках рэпрэсаваных. Неапазнаныя чалавечыя парэшткі незалежныя экспэрты і навуковы супрацоўнік інстытуту гісторыі Алег Іоў, які браў удзел у раскопках, ідэнтыфікуюць 30-мі гадамі мінулага стагодзьдзя.

Зь імі не пагаджаецца археоляг 52-га пошукавага батальёну Вадзім Тамілін, які адстойвае афіцыйную вэрсію. Ня ўзяўшы пад увагу сьведчаньні мясцовых жыхароў і артэфакты, знойдзеныя ў дасьледаваных магілах ля Хайсоў, абапіраючыся на заключэньні вайсковага археолага, улады Віцебскага раёну прыйшлі да высновы, што знойдзеныя парэшткі належаць ахвярам вайны.

**Гісторыкаў не дапускаюць да архіваў**

Тэма рэпрэсій зьяўляецца для ўладаў табуяванай. У краіне

***(працяг на стар. 2)***

РЫНАК ПРАЦЫ

## 80 ВАКАНСИЙ НА РАЙОН

**Из них самая высокооплачиваемая это работа в Витебском лесхозе с зарплатой в 1400 рублей.**

Первый по кликабельности помощник в сети сортирует вакансии по зарплате и показывает самую высокую зарплату в 1400 рублей в Витебском лесхозе водителю лесовоза (трелёвочной машины). Также в этом лесхозе требуются вальщик леса и начальник планово-экономического отдела с зарплатой по 1000 рублей. Зарплата в тысячу рублей также предлагается в КУСХП «Экспериментальная база Тулово» за работу главного бухгалтера и водителя автомобиля на «Доломите» в Рубе.

«Белвитунифарм» требуются начальник отдела с зарплатой в 948 рублей, маркетолог — зарплата 879 рублей, юрист (618 рублей), инженер-энергетик с зарплатой в 582 рубля, инженер по ремонту и обслуживанию оборудования (520! рублей), инженер технолог (500 руб), ветеринарный врач (483 рубля), техник КИПА (450 рублей), слесарь-сантехник (420 рублей), инженер по материально-техническому снабжению и микробиолог (400 рублей), химик, жестянщик, повар и зоотехник с зарплатой в 375 рублей.

В Суражский лесхоз требуются лесничий и начальник с опытом работы (зарплата 900 рублей), трактористы (от 700-800 рублей), мастер леса, бухгалтер, инженер по охране труда, инженер по качеству (зарплата в 700 рублей), бухгалтер за 600 рублей, станочник на деревообрабатывающие станки (375 рублей),

Машинисту экскаватора 7 разряда на «Доломите» в Рубе предлагают 870 рублей, требуются машинист насосных установок (800 рублей), водитель погрузчика и машинист экскаватора (760 рублей), водителю ещё одного погрузчика обещают зарплату в 712 рублей, горный мастер получит 700 рублей, электрослесарь по ремонту и обслуживанию оборудования 660 рублей, мастер-взрывник и фрезеровщик по 650 рублей, слесарь по ремонту автомобилей 610 и 540 рублей, сверловщик 570 рублей, три слесаря по 520 рублей, слесарь-ремонтник 480 рублей, оператор складов 400 рублей,

ПК «Ольговское» требуется оператор машинного доения (зарплата от 800 рублей), слесарь (700 рублей), работник склада (от 400 рублей),

ООО Фабрика «Василина» требуется вязальщица с зарплатой от 500 рублей с возможными ночными сменами, менеджер по продажам требуется на предприятие МеталлГруп в Тулово (зарплата от 500 рублей), ОДО «ВитКонсар» предлагает работу подсобному рабочему за 350 рублей, и ООО «ГлоБел24» требуется уборщица производственного помещения (зарплата 259 рублей). Есть вакансии без указанной зарплаты, и даже предприятий из других районов.

Как мы видим, зарплату, которая превышает «500 зелёными» предлагает только ОДНА вакансия из 78. Остальные зарплаты очень далеки от тех обещанных, про которые рассказывал сами знаете кто.

**А.Адамов**

ПЕРАМОГА

## МОНУМЕНТ «БЕЛЫЕ ЖУРАВЛИ»

**К 75-летию Великой Победы в агрогородке Копти Витебского района на территории мемориального комплекса имени Ленинского комсомола 6 мая торжественно открыли монумент «Белые журавли».**

Монумент воздвигнут в память о героизме более тысячи воинов Красной Армии, погибших в боях за освобождение деревни Копти и близлежащей к ней территории от немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны в ходе наступательной операции «Багратион» летом 1944 года.

«Белые журавли» появились по инициативе областной организации Белорусского союза ветеранов войны в Афганистане и администрации свободной экономической зоны «Витебск» на средства предприятий — резидентов СЭЗ «Витебск».

В мероприятии приняли участие ветераны Великой Отечественной войны, руководители Витебской области и Витебского района, представители администрации Свободной экономической зоны «Витебск», предприятий-спонсоров, воины-интернационалисты, учащаяся молодежь.

Основной вклад в изготовление металлоконструкций монумента внесло СООО «Новополоцкий завод технологических металлоконструкций» под руководством Игоря Шурпакова, в части строительно-монтажных работ — ООО «ПлиссаСтрой» (директор Анатолий Стрик).

**Виталий СЕНЬКОВ
vitbichi.by**

ПАМЯЦЬ

*(пачатак на стар. 1)*

нават няма адмысловай структуры, якая б займалася пошукам месцаў масавых пахаваньняў рэпрэсаваных. А раз няма структуры – значыцца не было і рэпрэсій.

*«Прафэсійных гісторыкаў і нашчадкаў рэпрэсаваных не дапускаюць да архіваў са справамі сталінскіх расстрэлаў»*, – наракае ў скарзе Смолікаў.

Склалася патавая сытуацыя, пры якой грамадзтва пазбаўленае любых законных мэханізмаў у справе вяртаньня гістарычнай праўды і памяці пра пэрыяд сталінскіх рэпрэсій. Канстанцін Смолікаў лічыць, што ў гэтай сытуацыі ёсьць віна і «Інстытуту гісторыі НАН».

Ускосна гэта пацьвярджае і гісторык Ігар Кузьняцоў.

*«Рабочая група па дасьледаваньні савецкіх рэпрэсіяў была ліквідаваная ў інстытуце ў 1996 годзе. З таго часу ні адзін супрацоўнік спэцыяльна гэтай тэмай не займаецца»*, – піша гісторык.

Дзеля выпраўленьня хібаў у вывучэньні пэрыяду сталінскіх рэпрэсій Канстанцін Смолікаў ад імя грамадзкасьці выказвае да кіраўніцтва інстытуту чатыры патрабаваньні. Ён жадае, каб інстытут актывізаваў сваю дзейнасьць у вывучэньні тэмы рэпрэсій, а таксама хадайнічаў перад мясцовымі ўладамі пра стварэньне і прызнаньне ўжо існых народных мэмарыялаў на месцах расстрэлаў і пахаваньняў палітычных ахвяраў сталінізму.

Адказ за подпісам вучонага сакратара «Інстытуту гісторыі НАН» А. Салаўянава прыйшоў праз дзесяць дзён.

**У кампэтэнцыю не ўваходзіць...**

*«Згодна статуту Інстытут гісторыі НАН Беларусі ажыцьцяўляе навуковыя дасьледаваньні. Ініцыяваньне стварэньня ці прызнаньня мэмарыяльных комплексаў не ўваходзіць у кампэтэнцыю інстытута»*, – гаворыцца ў атрыманым адказе.

*«Зьмест дасланага ліста не задаволіў. Мы мусім яго абскардзіць у прэзыдыум АН Беларусі. Нас не задавальняе тое, што ні мясцовыя ўлады, ні інстытут гісторыі ня хочуць выступаць ініцыятарамі раскопак у месцах масавых пахаваньняў рэпрэсаваных. У інстытуце няма гісторыкаў, якія стала займаліся б тэмай рэпрэсій. Супрацоўнікі інстытуту не дасьледуюць тэму, цікавую грамадзтву, таму мы і выказалі незадаволенасьць іх працай. Калі ў грамадзтва няма вагароў уплыву, застаецца толькі скардзіцца на тое, што ў гэтым кірунку нічога афіцыйнымі гісторыкамі ня робіцца»*, – кажа Канстанцін Смолікаў.

Ён лічыць, што спасылка вучонага сакратара на тое, што шмат гісторыкаў ужо распрацоўвала гэтую тэму, выглядае дзіўным, тым больш што апошняя публікацыя датуецца 2002 годам! Адзінае, што робіцца на сёньняшні дзень, – гэта зборнік дакумэнтаў і матэрыялаў аб рэпрэсіях у савецкай Беларусі ў 1920-х – 1940-х гг. Але калі гэты зборнік выйдзе – невядома…

**С. Горкі**
**"Віцебская вясна"**

ЗДАРЭННЕ

# РЭХА ВАЙНЫ

**Больш за сотню выбухованебяспечных прадметаў часоў апошняй вайны знайшоў дачнік ў Віцебскім раёне.**

Цэлы склад боепрыпасаў выявіў пры пабудове куратніка на сваім дачным участку жыхар Віцебска.

Ён капаў траншэю пад будучы падмурак куратніка і выкапаў першыя падазроныя металічныя прадметы. Сцяміўшы, што гэта магчымыя боепрыпасы, віцяблянін выклікаў супрацоўнікаў міліцыі.

На дачны ўчастак прыбыла сапёрна-піратэхнічная група вайсковай часці 5524. Сапёры дасталі з зямлі 46 ручных гранат, 21 мінамётную міну калібра 81 міліметр, артылерыйскі снарад калібра 75 міліметраў і 50 артылерыйскіх узрывальнікаў.

Усе выяўленыя боезапасы адносяцца да перыяду Другой сусветнай вайны, іх вывезлі і знішчылі.

**Прэс-служба УУС**
**Віцебскага аблвыканкама**

ПАДАТКІ

# НАЛОГИ ВНИЗ!

**В Витебской области в два раза снижены ставки единого налога для ИП и самозанятых граждан.**

На Витебщине ставки единого налога для индивидуальных предпри-нимателей и само-занятых граждан уменьшены в два раза на 2-й и 3-й квартал 2020 года. Такое решение принято 12 мая на сессии Витебского областного Совета депутатов.

**По оперативным данным налогового ведомства, это позволит оказать поддержку более 9 тыс. налогоплатель-щикам.**

Депутаты Витебского облсовета первыми среди коллег из других регионов воспользовались возмож-ностью, прописанной в указе главы государства № 143 «О поддержке экономики». По предварительным оцен-кам, такое послабление для малого бизнеса, которое будет действовать с 1 апреля, обойдется местному бюджету примерно в 2,2 млн рублей.

В условиях замедления предпринимательской активности на фоне сложившейся в мире эпидемиологической обстановки плательщики единого налога относятся к наиболее пострадавшему сектору малого бизнеса. Как сообщил начальник областной налоговой инспекции **Валерий Лобацевич**, мониторинги ситуации показывают, что выручка в ряде сфер деятельности сократилась в апреле в 2-3 раза. При этом **ставка единого налога фиксированная и уплачивать ее надо наперед — таковы особенности данного режима** налогообложения. Поэтому в указе наряду со снижением налоговой нагрузки для этой категории плательщиков предусмотрена возможность с начала любого месяца перейти на другой налоговый режим — упрощенную систему (УСН) или уплату подоходного налога.

Смысл перехода в том, что налогообложению будет подлежать только полученная выручка, и налог необходимо будет платить не наперед, а поквартально. По оперативным данным, этой возможностью уже воспользовались около 40 предпринимателей. Вместе с тем, подержанные сегодня плательщиков единого налога в перспективе смогут компенсировать бюджету выпадающие доходы, когда выручка вернется на докризисный уровень.

В последние годы ИП вносят основной вклад в количественный рост малого и среднего бизнеса на Витебщине. По данным на 1 апреля, всего зарегистрировано свыше 23 тыс. ИП, что на 5% больше, чем годом ранее. Наиболее высокими темпами эта категория плательщиков росла в 14 сельских районах, в том числе в Бешенковичском (12,5%), Дубровенском (12,2%), Лиозненском (11,9%), Толо-чинском (10,3%), Браславском (10%), Сенненском (9,5%), Верхнедвинском (9,4%) районах.

**А.Смоленский**

ІНВЕСТЫЦЫІ

# МОСТЫ В РУБЕ И СУРАЖЕ НА РЕМОНТ

**690 млн рублей выделяют на ремонт 12 мостов в Беларуси, два из них в Витебском районе.**

Это те искусственные сооружения по всей стране, которые по результатам комплексных обследований признаны небезопасными для эксплуатации. Треть таких мостов находится в Витебской области.

Восстановить 12 мостов на республиканских дорогах в кратчайшие сроки — накануне такое поручение дал Президент, сообщили в программе Новости «24 часа» на СТВ.

Это те искусственные сооружения по всей стране, которые по результатам комплексных обследований признаны небезопасными для эксплуатации. Треть таких мостов находится в Витебской области. Сейчас готовится проектно-сметная документация по каждому объекту. Средства уже найдены: столь значимый для страны проект кредитует Европейский банк реконструкции и развития.

Карьер «Гралево» — второй по величине в Беларуси и единственный, где добывают доломит. Только в глубину он уходит на 70 метров. Для сравнения: это высота 20-этажного дома. Достают горную породу даже из-под воды.

Доломит широко используют в сельском хозяйстве, металлургии, дорожном строительстве. Но прежде его надо переработать. С карьера его возят на завод и днем, и ночью. В сутки 600 рейсов. И все они проходят под одним мостом.

Этот мост самый маленький из тех, что собираются реконструировать, но страте-гически важный для всей страны. Построен в 1974 году и ни разу не ремонтировался. Обновление конструкции позволит не только сделать сооружение более безопасным.

Владимир Григорьев, заместитель генерального директора ОАО «Доломит»: Проектом реконструкции этого путепровода «Витебскавтодор» предусмотрел подъем данного путепровода на один метр, что позволит ОАО «Доломит» закупать технику более высокой грузоподъемности (55 тонн) и использовать у себя на промплощадке. Затраты снижаются по дизтопливу, то есть на перевозку горной массы требуется меньше попросту денег.

Только на севере страны к реконструкции готовят четыре моста: под Витебском, в Сураже, Верхнедвинске и на рубеже Полоцкого и Россонского районов. Предварительно все их проверили и выставили диагноз: «конструктивные дефекты, влияющие на безопасную эксплуатацию».

Александр Рымашевский, главный инженер РУП «Витебск-автодор»: Изготовление проектно-сметной докумен-тации происходит по-разному. Сроки ее изготовления зависят от состояния моста, его размеров, от того, как будет производиться реконструкция. И занимает это в среднем от нескольких месяцев до года.

В частности, по нашим четырем мостам... По двум искусственным сооружениям — путепровод на автомобильной дороге М-8 и мост через реку Касплю в Сураже — проектно-сметные документации изготовлены. Прошла вневедомственная государственная экспертиза. По остальным двум искусственным сооружениям планируем завершить изготовление проектно-сметной документации в июле-августе этого года.

Анастасия Бут, корреспондент: Обновленные опоры, пролетные строения, хорошее дорожное полотно, новые развязки и подъезды. Некоторые мосты придется даже перестраивать. Но выглядеть в итоге они будут примерно как этот, под Витебском. Его сдали в эксплуатацию несколько лет назад.

На реконструкцию 12 мостов по всей стране и участка трассы М-3 (Минск — Витебск) выделяют без малого 690 миллионов рублей — беспрецедентная сумма кредитования Европейским банком реконструкции и развития в истории Беларуси.

Александр Головнев, начальник главного управления автомобильных дорог Министерства транспорта и коммуникаций Беларуси: В настоящее время заканчивается формирование пакета конкурсной документации. Будет объявлен международный конкурс, и мы предполагаем в начале второго полугодия приступить к работам. Конкурс, так как проводится за деньги Европейского банка, и условия — это абсолютно широкий допуск всех компаний, которые обладают квалификацией, независимо от страны и регистрации.

Восстановить 12 мостов на республиканских дорогах в кратчайшие сроки накануне поручил глава государства. Ведь это не только международные коридоры и транспортные артерии страны, это еще и возможность обеспечить работой и зарплатой людей в сложившейся экономической обстановке.

**Анастасия Бут**
**ctv.by**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Узгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# РОЛЯ СРОДКАЎ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ АБАРОНЫ Ў ПАДТРЫМАННІ ДЭМАКРАТЫІ

**Моцная дзяржава — гэта наша ўсё. Як тут ні прыгадаць «ліхія 90-я», калі ўлада літаральна валялася ў брудзе. Але беларусам пашанцавала: сярод лясоў і балот знайшлася ўнікальная асоба, якая здолела аб'яднаць вакол сябе пераважную частку грамадства і паказаць простыя і ясныя шляхі развіцця.**




Нашы суседзі на Поўначы і Захадзе гэтай прастаты і яснасці не ацанілі. Яны пайшлі не ад жыцця, а ад абстрактных лагічных пабудоў — і ў выніку сёння маюць тое, што маюць. Але і беларусы ў накладзе не засталіся. Тыя з землякоў, хто здолеў атрымаць шэнгенскую візу, да нядаўняга часу мелі магчымасць на свае вочы назіраць сумныя наступствы няслушнага стратэгічнага выбару сваіх суседзяў, а заадно — купляць разнастайныя тавары.

Каб шопінг канчаткова не спустошыў паліцы еўрапейскіх супер- і гіпермаркетаў, родная моцная дзяржава вымушана перыядычна рабіць больш жорсткім указ «Аб перамяшчэнні праз мытную мяжу Мытнага саюза ў Рэспубліцы Беларусь тавараў для асабістага карыстання». Чарговае ўзмацненне жорсткасці было апублікавана 14 красавіка. Рэкамендую азнаёміцца з ім, каб не наклікаць на сваю галаву непрыемнасцяў пасля заканчэння пандэміі.

Каронавірус, здавалася б, паставіў крыж на магчымасці суайчыннікаў любавацца культурнай і эканамічнай дэградацыяй неразумных еўрапейцаў. Але не варта адчайвацца. Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а дэградацыя, выкліканая адмовай ад будаўніцтва моцнай дзяржавы, — працэс перманентны (ад лацінскага «permanens» — «заставацца»). На яе яшчэ нашы дзеці і ўнукі могуць атрымаць асалоду ўдосталь наглядзецца.

Высвятляць, на чыім баку праўда ў спрэчцы прыхільнікаў і праціўнікаў моцнай дзяржавы — справа няўдзячная. Усё залежыць ад культурнага кантэксту, што і было наглядна прадэманстравана на прыкладзе поспехаў/няўдач у барацьбе з распаўсюджваннем каронавіруса.

У Беларусі рэгулярна спасылаюцца на досвед Швецыі, якая адмовілася ад жорсткага каранціну. Між тым, адсутнасць патрабаванняў з боку дзяржавы не азначае, што шведы працягваюць жыць дакаронавірусным жыццём. Для таго, каб захоўваць сацыяльную дыстанцыю і выконваць іншыя патрабаванні гігіены, ім цалкам хапае рэкамендацый спецыялістаў у інтэрнэце.

Сёння ўменне знаходзіць у сусветным павуцінні карысную інфармацыю і адрозніваць людзей сучасных ад архаікаў, для якіх інтэрнэт — толькі інфармацыйная памыйніца, перапоўненая фэйкамі.

**Непераканаўчая статыстыка**

Вопыт ліберальнай Швецыі, безумоўна, цікавы беларускім уладам, якія вырашылі і ў барацьбе з каронавірусам ісці сваім шляхам, але было б дзіўна, калі б дзяржаўная прапаганда не звярнулася да вопыту Кітая. Як жа без яго, як жа без міфа пра перавагі ў крызісных сітуацыях цэнтралізаванай улады над уладай дэмакратычнай?

Аднак я б не рэкамендаваў захапляцца вопытам кітайскіх таварышаў. З'яўленне першага кластара пнеўманіі з невядомай этыялогіяй лекары Уханя зафіксавалі 21 снежня, а ўжо праз 4 дні яны атрымалі пераканаўчыя доказы, што вірус перадаецца ад чалавека да чалавека. Але для таго, каб прызнаць гэты медыцынскі факт, моцнай кітайскай дзяржаве спатрэбілася 45 дзён!

Усвядоміўшы небяспеку, кітайскія таварышы заблакавалі любыя перамяшчэнні з Уханя ва ўнутраныя раёны краіны, але не адмянілі замежныя авіярэйсы. У выніку дзясяткі тысяч чалавек вылецелі толькі ў ЗША ўжо пасля таго, як у горадзе быў уведзены каранцін. Ці не спрычыніўся такі выбарачны падыход кітайцаў да ператварэння Нью-Ёрка ў галоўны ачаг эпідэміі, у той час як Пекін чаша гэтая абмінула?

На сайце ўніверсітэта Джона Хопкінса колькасць інфікаваных у Кітаі практычна не расце, а Расія, якая саступае Паднябеснай у дзесяць разоў па колькасці насельніцтва, штодня дадае па 9 тысяч інфікаваных каронавірусам…

**Шчыра і прыгожа**

Для тых, хто сумняваецца ў здольнасці дэмакратый мабілізаваць насельніцтва ва ўмовах крызісаў, я прывяду цытату з мемуараў асабістага архітэктара Гітлера, рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў Альберта Шпеера: «Татальная мабілізацыя рабочай сілы ў дэмакратычнай Англіі і досыць нядбайнае стаўленне да вырашэння гэтай праблемы ў Германіі сведчылі пра тое, што, як ні дзіўна, менавіта аўтарытарны рэжым імкнуўся прыцягнуць на свой бок сімпатыі народа. Боязь выклікаць незадаволенасць народных масаў прымушала марнаваць на вытворчасць тавараў народнага спажывання, выплаты дапамогаў удзельнікам вайны і кампенсацыі жанчынам, якія страцілі ў заробку праз сыход мужоў на фронт, значна больш сродкаў, чым выдаткоўвалі ўрады дэмакратычных дзяржаў».

Гітлер, у адрозненне ад Англіі, так і не адважыўся ўвесці ў Германіі працоўную павіннасць для жанчын. Яго няспелая спроба ў 1942 годзе сустрэла жорсткі супраціў з боку гаўлейтараў, і фюрэр быў вымушаны адступіць…

**На сустрэчных курсах**

Але які б узровень прафесіяналізму ні дэманстраваў беларускі ЦВК, заўвага былога рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў наконт імкнення аўтарытарных рэжымаў прыцягваць «на свой бок сімпатыі народа» актуальнасці не страціла.

У год галоўнай электаральнай кампаніі ў Беларусі традыцыйна працягвае расці сярэдні заробак. Ні нафтагазавыя разборкі з Расіяй, старт якім быў дадзены ў снежні 2018 года, ні падзенне знешняга попыту на традыцыйныя беларускія тавары з-за каронавіруса не ў стане спыніць атракцыён нечуванай сацыяльнай шчодрасці.

Згодна з апошняй інфармацыяй ад Белстата, намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у сакавіку склала 1213,6 рубля, што на 93,8 рубля або 8% больш, чым у лютым.

ВУП зніжаецца, а заробак расце. Як доўга будзе працягвацца гэты рух на сустрэчных курсах і чым усё скончыцца? Тым, хто яшчэ памятае, чым абярнулася аналагічная шчодрасць у 2010 годзе, спадзяюся, не трэба падказваць адказ.

Ці ёсць шанец збочыць з пратаптанай за чвэрць стагоддзя дарожкі? Выключна тэарэтычны, не больш. …Пры гэтым неабходна памятаць кіраўнічую аксіёму: «Той, хто імкнецца ўсім кіраваць, вымушаны за ўсё адказваць».

Пра яе існаванне АП ведае, і нагадаў гэта сваўму атачэнню 21 красавіка падчас рабочай паездкі ў Бабруйск: «Я, напэўна, залішне бяру на сябе адказнасць. Я на сябе ўвесь гэты груз усклаў. <...> Укладзі я адказнасць, не ўкладзі, вы ж усё роўна з мяне спытаеце. Такая практыка ў нас ужо ў краіне...» На жаль, «такая практыка» так ні разу і не была рэалізаваная на практыцы. Таму безадказнасць — адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі, што стала асабліва прыкметна ва ўмовах крызісу.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПАРАД-2020

# РИТУАЛ ВАЖНЕЕ ЗДОРОВЬЯ ЛЮДЕЙ?

**Настоящие фронтовики не жаловали пустую браваду. Так что морализаторство с высоких трибун звучит фальшиво...**

Господи, ну какая там социальная дистанция, о чем вы говорите! На параде 9 мая в Минске и солдатики шли плечом к плечу, и зрители со смартфонами толпились густо, и на главной трибуне важные люди стояли плотненько. Естественно, никаких масок: негоже наследникам подвига пасовать перед мелким вирусом.

Александр Лукашенко провел парад, зная, что многие его не одобряют, называют пиром во время чумы. Официальный лидер даже в своем выступлении на мероприятии не удержался от полемики: «В этом обезумевшем, потерявшем ориентиры мире найдутся люди, осуждающие нас за место и время проведения этого священного действа. Хочу им сказать по-человечески: не торопитесь делать выводы, а тем более осуждать нас, наследников Победы, белорусов».

Стоп, но ведь и среди противников парада в разгар пандемии — многие белорусы. Недавний опрос Satio и BEROC показал, что 74% респондентов выступают за запрет всех массовых мероприятий в стране. И что, имеющих такую точку зрения лишают права на наследие Победы? А с какой это стати люди при больших должностях возомнили себя монополистами и верховными судьями в этом вопросе?

Политика Лукашенко за долгие годы создала глубокий политический, ценностный, моральный раскол в белорусском обществе. И проведение этого парада лишь углубляет раскол, при том что по идее такие даты должны консолидировать нацию.

И хотя глава государства накануне заявлял, что никого на парад тащить не надо, в социальных сетях было полно свидетельств того, что административный ресурс все равно работал — если не в виде кнута, то в виде пряника. Показуха в «лучших» советских традициях.

**Когда «я так хочу» становится государственной политикой**

Несколько дней назад президент заявил на совещании, что парад — не самое опасное с точки зрения эпидемиологов и вирусологов мероприятие. С кем консультировался официальный лидер, неясно.

Во всяком случае, не с ВОЗ, к авторитету которой белорусское начальство апеллирует, когда ему выгодно. Потому что представитель ВОЗ в Беларуси Батыр Бердыклычев заявил 4 мая в комментарии для БелаПАН: «Мы очень обеспокоены возможными негативными последствиями проведения такого массового мероприятия в период эпидемии».

А глава Европейского регионального бюро ВОЗ Ханс Клюге отметил, что «те правительства, которые приняли храброе решение отложить или перенести парады, поставили здоровье людей на первое место».

Но у белорусского руководителя свое понятие о храбрости. «Меня очень волнует, что люди не одобрят, если мы, испугавшись, разбредемся по норам», — признался Лукашенко на совещании 3 мая.

Похоже, здесь на первый план вышло своеобразное понимание, как должен выглядеть сильный лидер. Лукашенко исповедует стиль крутого мужика, которому все нипочем.

Наверняка сказывается и то,

***(працяг на стар. 4)***

ПАРАД-2020

(пачатак на стар. №3)

что человек, правящий страной уже почти 26 лет, привык к беспрекословному подчинению. Это вырабатывает некритичность мышления. В свое время ошибки Сталина дорого стоили советским людям, заплатившим кровью. Некому было поправить вождя, все дрожали.

И в окружении Лукашенко, похоже, нет персон, способных возразить, даже если про себя они и думают, что зря шеф это затеял. А когда система авторитарная, персоналистская, то любое «я так хочу» становится государственной политикой…

**Не каждый день удается заткнуть за пояс Путина**

Еще в конце марта Лукашенко сетовал на проблему: как 9 мая и в Москве на торжествах побывать, и в Минске парад принять. Проблема решилась сама собой: Владимир Путин свое мероприятие (а уж как оно ему было дорого!) отменил из-за пандемии.

Сегодня Лукашенко подчеркнул, что «в этом году военный парад в Минске станет единственным на постсоветском пространстве». И это, надо полагать, тоже важный момент, склонивший чашу весов (а Лукашенко ранее признался, что «долго над этим думал») в пользу парада.

Вот ведь какой парадокс: пандемия неожиданно позволила белорусскому лидеру перетянуть центр торжеств в честь 75-летия Победы в свою столицу. Москва, в которой, как сетовал ранее Лукашенко, кое-кому неймется приватизировать Великую Победу, оказалась в тени, а вот он — на коне как самый верный и бесстрашный наследник боевой славы.

На первом плане здесь — игра амбиций, «утереть нос Путину — главный мотив». Такое мнение высказал ранее в комментарии для Naviny.by эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск) Валерий Карбалевич…

**Власть застряла в прошлом**

Проведением парада Лукашенко лишний раз показал себя глубоким консерватором, который привязан к советскому мировоззрению, советским ритуалам. Причем ритуал ставится выше здоровья. В советской традиции люди — это расходный материал, который идет на обслуживание якобы великих целей, а на самом деле — властных амбиций вождей. Так что морализаторство с высоких трибун звучит фальшиво.

Консерватизм нынешнего руководителя Беларуси, его желание остановить время, любой ценой сохранить статус-кво сегодня объективно мешают стране, обрекая ее на отставание от развитого мира.

Эпидемия особенно четко показала, что политический режим Беларуси, сконструированный в духе вождизма и повторения советских практик, не отвечает требованиям времени. Стране нужна другая, более современная и гуманистически мыслящая власть.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**naviny.by**

COVID-19

# «ЗА ДВА ДНЯ ПРИБАВИЛОСЬ ОКОЛО СОРОКА МОГИЛ»

**Врачи из руководства все еще заявляют, что справляются, а власти проблему не признают, пишет «Белсат».**

**Забрали почти весь подъезд**

Своими наблюдениями о том, как живут Столбцы, поделился местный житель Сергей, который доставляет горожанам продукты и потому часто разговаривает с ними, в том числе и о коронавирусе.

«Все паникуют, особенно пенсионеры. Когда делаем доставку на дом, сами защищаемся, костюмы надеваем, но пенсионеры, их родственники и близкие боятся. По их словам, очень много соседей забирают. В одном доме на улице Центральная почти весь подъезд забрали. Все это прячут», — говорит Сергей.

По его словам, растет и количество захоронений на кладбище.

«Ездил я за два дня перед Радуницей и на Радуницу. Добавилось по крайней мере около сорока могил», — отметил собеседник.

Сергей отметил, что, например, умерла женщина, которой не было и 65 лет и которая жила по соседству от его работы. Официально ей поставили диагноз сердечная недостаточность, «хотя был положительный тест на этот вирус».

Власть не спешит информировать людей и вводить противоэпидемиологические меры. Предприниматели сами вешают объявления на своих магазинах, что вход без маски запрещен.

«Я сделал небольшие брошюрки пенсионерам. Когда еду к старшим домой, доставляю вместе с антисептиком бесплатно, чтобы знали чего опасаться и что это такое. Ведь есть люди, которые не осознают происходящего», — говорит Сергей.

Собеседник также отметил, что людей на улицах города стало «раз 5 меньше», чем было до пандемии. Многие сидят в самоизоляции или карантине.

Из централизованных мер, которые все видят, в городе только дезинфицируют улицы. Но и с этим есть проблемы, говорит сотрудница одного из местных магазинов Анастасия. На подстанции электросетей на улице Гайдука рядом с ее домом работал человек, который умер из-за Ковид-19.

«Ни разу не было машины, которая бы приехала и обработала там антисептиком. Почему? Она ездила от райисполкома, повернула на милицию и поехала дальше. Ни разу мы не видели, чтобы к нам заезжала машина. Центральную улицу обработали, милицию обработали, а частные дома?» — возмущается собеседник.

Ситуацию в Столбцах она оценивает как очень тяжелую. При этом 25 апреля в государственных учреждениях прошел субботник. Частные организации от его проведения отказались.

Личная ответственность прежде всего

В Столбцовской санэпидемстанции корреспонденту Belsat.eu точной статистики относительно ситуации с коронавирусом в городе не сообщили. Посоветовали обращаться в Минздрав. Но само положение критическим не считают.

«Работаем, справляемся пока», — отметил главврач.

Что касается каких-то особых рекомендаций для жителей, то информация «и так уже перенасыщена».

«Другое дело, если бы все все выполняли. Личная ответственность граждан должна быть прежде всего», — подчеркнул врач.

Относительно дезинфекции улиц он отметил, что в городе обрабатывают прежде всего центральные улицы и те, по которым чаще всего ходят люди. За точными сведениями собеседник посоветовал обратиться в АКС Столбцовского района, но до соответствующего отдела нам дозвониться не удалось.

**МГ/МВ Belsat.eu**

КАМПАНІЯ 2020

# ЧАСТКА ЭЛІТЫ СТАМІЛАСЯ АД ЛУКАШЭНКІ

**Маральны знос сыстэмы набыў такі памер, што чыноўнікі перасталі баяцца. Чаму на выбары пайшлі Бабарыка і Цапкала? Вылучэньне адразу Цапкалы і Бабарыкі сьведчыць пра тое, што частка кіроўнай эліты стамілася ад Лукашэнкі.**

**Частка кіроўнай эліты стамілася ад Лукашэнкі**

Праект «Праймэрыз» канчаткова змаргіналізаваў большую частку апазыцыі, якая страціла ролю суб'екта выбарчай кампаніі. Пасьля краху гэтага праекту здавалася, што нас чакаюць самыя нецікавыя прэзыдэнцкія выбары, кшталту кампаніі 2015 году.

Але зьяўленьне сярод прэтэндэнтаў такіх намэнклятурных цяжкавагавікоў, як Валерый Цапкала і Віктар Бабарыка, сьведчыць пра тое, што, магчыма, нас чакае самая цікавая выбарчая кампанія, прынамсі за апошнія дзесяць гадоў.

Упершыню з 2006 году, з часоў Аляксандра Казуліна, прадстаўнікі кіроўнай намэнклятуры адважыліся ўзяць удзел у выбарчай кампаніі. Цяпер адразу двое, дуплетам. Гэта вельмі знамянальная прыкмета. Адна справа — падзеньне даверу насельніцтва да ўлады, якое прыняло даволі вялікія маштабы. Але, здавалася дасюль, народу супрацьстаіць кансалідаваная намэнклятура, аб'яднаная вакол уладара. І вось вылучэньне адразу Цапкалы і Бабарыкі сьведчыць пра тое, што ня толькі грамадзтва, але і частка кіроўнай эліты стамілася ад Лукашэнкі. Маральны знос сыстэмы набыў такі памер, што чыноўнікі перасталі баяцца.

На што яны разьлічваюць, калі ўсім вядома, што выбараў у Беларусі няма? Часткова на гэтае пытаньне адказаў Віктар Бабарыка, канстатаваўшы «абмежаванасьць любой неэфэктыўнай сыстэмы» і «магчымасьці, якія даюць новыя інструмэнты на базе сучасных тэхналёгій».

**Кіроўны досьвед і «гісторыя посьпеху»**

У чым перавага гэтых кандыдатаў? Яны падыходзяць на ролю альтэрнатывы Лукашэнку. Лідэраў апазыцыі грамадзтва ў такой ролі ня бачыць. Што, у прыватнасьці, засьведчыла галасаваньне ў інтэрнэце ў праекце «Праймэрыз».

У Цапкалы і Бабарыкі ёсьць кіроўны досьвед, чаго вельмі бракуе лідэрам апазыцыі. Яны могуць прэтэндаваць на статус «трэцяй сілы». Акрамя таго, у Валерыя Цапкалы ёсьць «гісторыя посьпеху». Маю на ўвазе Парк высокіх тэхналёгій, які ён стварыў з нуля і які стаў лідэрам самай дынамічнай і, можа, адзінай эфэктыўнай галіны беларускай эканомікі. Чым, зноў жа, ня могуць пахваліцца апазыцыйныя кандыдаты.

Зьяўленьне Бабарыкі на выбарчым гарызонце разбурае шматлікія канспіралягічныя вэрсіі, якія спадарожнічалі інфармацыі пра ўдзел у кампаніі Валерыя Цапкалы. Маўляў, гэта хітрая гульня Лукашэнкі, які сам адмыслова выставіў былога дырэктара ПВТ у якасьці кіраванага спарынг-партнэра, спойлера.

Цяпер выходзіць, што на гарызонце зьявіліся два спойлеры ў вобразе намэнклятурных цяжкавагавікоў? Ці не зашмат?

Трэба адзначыць, што Лукашэнка ня любіць складаных палітычных гульняў, ён аддае перавагу простым і нават грубым хадам, больш гуляе шахматнай дошкаю, чым фігурамі. А штучна ствараць сабе апанэнтаў — гэта складаная гульня.

**Сумнеўная вэрсія пра спойлераў**

І галоўнае пытаньне: а навошта Лукашэнку гэта трэба? Прыхільнікі падобных канспіралягічных вэрсій кажуць, што такім чынам Лукашэнка імкнецца абудзіць цікавасьць да выбараў, прыцягнуць людзей на выбарчыя ўчасткі.

Аднак праблема ў тым, што Лукашэнка, якраз наадварот, імкнецца ўключыць дэмабілізацыйныя мэханізмы, каб правесьці выбары па-за палітычнай плашчынёй, у форме тэхнічнай, рутыннай працэдуры. Памятаеце, як калісьці Ярмошына тлумачыла, чаму разьвялі прэзыдэнцкія і парлямэнцкія выбары па розных гадах? Каб не было залішняй палітызацыі. А ўдзел такіх фігур, як Цапкала і Бабарыка, якраз палітызуе кампанію. Калі б Лукашэнку цікавіла яўка, была важная цікавасьць да кампаніі з боку насельніцтва, то ён прызначыў бы выбары на 30 жніўня, калі студэнты зьявяцца ў інтэрнатах, людзі вернуцца з адпачынкаў. А ён прызначыў выбары на 9 жніўня, то бок у «мёртвы сэзон», час адпачынкаў, калі вялікай колькасьці людзей ня будзе ня толькі ў сваіх кватэрах, але і ў краіне ўвогуле.

Так, Лукашэнку патрэбен спарынг-партнэр, каб раптам не апынуцца ў выбарчым бюлетэні аднаму. Але, па-першае, хіба аднаго Гайдукевіча мала? І па-другое, спойлер павінен быць узроўню казака Ўлаховіча ўзору 2015 году. А Цапкала, Бабарыка — гэта зусім іншы ўзровень. Такіх у спойлеры не бяруць.

**Пра кручкі і ніткі**

У Фэйсбуку папулярная гіпотэза, што ў Лукашэнкі на таго ж Цапкалу ёсьць моцныя кручкі, якімі можна прымусіць яго выканаць гэтую ролю. Але, як трапна напісаў мой калега Юры Дракахруст у сваім блогу, «марыянэткі часам абрываюць ніткі».

Сапраўды, марыянэткі зрываюцца з кручкоў, калі бачаць на гарызонце вялікі прыз. І гісторыя дае нам шмат падобных прыкладаў. Лідэр антыкамуністычнай рэвалюцыі ў Вугоршчыне 1956 году Імрэ Надзь быў агентам НКВД. Вайсковы дыктатар Панамы Мануэль Нар'ега быў агентам ЦРУ, аднак амэрыканцам давялося ладзіць вайсковую апэрацыю, каб захапіць яго, бо ён гандляваў наркотыкамі. І лідэр польскай «Салідарнасьці», прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса таксама ў свой час падпісваў нейкую паперу аб супрацоўніцтве з камуністычнымі спэцслужбамі.

І, нарэшце, сапраўдныя спойлеры не крытыкуюць жорстка Лукашэнку, як гэта робяць Цапкала і Бабарыка. Вось Гайдукевіч — сапраўдны спарынг-партнэр — толькі хваліць дзейнага кіраўніка і ўвесь час лае апазыцыю.

Але і ў Цапкалы, і ў Бабарыкі ёсьць праблема. Хто будзе ім зьбіраць подпісы? Патрэбная каманда ня менш як 3 тысячы чалавек. Вось Бабарыка толькі цяпер абвясьціў набор сваёй ініцыятыўнай групы. Гэта значыць, што готовай каманды ў яго няма. Прычым важна, каб людзі былі добра матываваныя. Аднымі грашыма гэтага дасягнуць цяжка.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

Заснавальнік і рэдактар: Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

Адрас рэдакцыі: г. Віцебск, вул. 1-я Сенеская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

Падпісана да друку 16.05.2020 у 15.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.